**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 17 (785) 23 красавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

ФЭСТ ЭКСКУРСАВОДАЎ



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023





## Фэст экскурсаводаў у Глыбокім.



Юрый Калбасіч (злева) знаёміць экскурсантаў са славутасцямі Кафедральнага сабора.

**"Фэст Экскурсаводаў" -- гэта цэлы шэраг бясплатных экскурсій па Беларусі, прымеркаваных да Міжнароднага дня помнікаў і мясцінаў (18 красавіка).**

**Галоўная задума Фэсту - пазнаёміць жыхароў канкрэтных рэгіёнаў, гарадоў, вёсак, раёнаў і нават вуліц з тымі помнікамі, побач з якімі яны жывуць і ходзяць кожны дзень.** *Фота Маргарыты Юрык.*

Талачынскі раён

# Загінуў на дзяжурстве

■ Станіслаў Раманчук.

**Значна грамадскі рэзананс набыў факт забойства ў Талачынскім раёне пры выкананні службовых абавязкаў старшага дзяржінспектара прэзідэнцкай дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

Пра гэта надзвычайнае здарэнне паведамілі многія СМІ, а напярэдадні двое яе супрацоўнікаў адправілі на запланаваны начны рэйд па лясных масівах паблізу вёскі Петрашы. Па аператыўнай інфармацыі там любіў прамышляць браканьер, які ў мінулым нібыта нават служыў у праваахоўных органах. На жаль, у лесе яна спраўдзілася, але на каманду прад'явіць дакументы чалавек з незарэгістраваным, як высветлілася потым, ружжом Іж-17 кінуўся ўцякаць. Праўда, пажылы зламыснік, 55-гадовы жыхар райцэнтра аказаўся дрэнным бегуном, бо яго праследваў маладзейшы 44-гадовы Генадзь Раўкоў, у мінулым дэсантнік, які знаходзіўся ў лепшай фізічнай форме. Прадчуваючы для сябе буйныя непрыемнасці, браканьер нанёс смяртэльны выстрал. Ад атрыманых раненняў дзяржінспектар загінуў у лесе, але яго напарнік выклікаў дапамогу і па прыкметах апер-група неўзабаве затрымала злачынцу. На жаль, у сям'і загінуўшага інспектара засталіся сіротамі двое дочак, у старэйшай з іх сёлета нарадзілася ўнучка. Па факце гэтага гучнага забойства ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле, які прадугледжвае нават пажыццёвае зняволенне альбо смяротнае пакаранне. Такі закон суровы, але – гэта ўжо не першы выпадак гібелі ў Беларусі людзей, якія ахоўваюць прыроду ад рук занадта агрэсіўных браканьераў.

Глыбоцкі раён

# Прыйшлі на дапамогу

■ Чэслаў Якубовіч.

**У вельмі няпростых умовах вымушаны цяпер фактычна выжываць многія айчынныя вытворцы з-за росту цэн, узаемных неплацяжоў, скарачэння працоўнай занятасці супрацоўнікаў.**

У падобнай сітуацыі апынуўся і адзін з буйнейшых у галіне Глыбоцкі кансервавы завод. У лепшыя свае часы гэта прадпрыемства перапрацоўвала і кансервіравала ў сучасную тару да тысячы тон зялёнага гарошку, асартымент сваіх выпускаемых сокаў ва ўпакоўцы "тэтра-пак" даваяла да дзесяці найменняў. Аднак зараз завод вядомы пад гандлёвай маркай ААТ "Купцовъ" праходзіць працэдуру банкруцтва, сюды прызначылі антыкрызіснага ўпраўляючага. На некаторы час прадпрыемству прадаставяць перадышку, каб разабрацца са сваімі даўгамі і крэдыторамі. Таксама глыбачан па ініцыятыве вобласці і Дзяржкамітэта па маёмасці Беларусі ўключылі ў спіс 16 акцыянерных таварыстваў. Прыдзвіння для прыватызацыі на конкурснай аснове і для продажу патэнцыйным інвестарам на аўкцыёне да паловы кантрольнага пакета акцый. У праблемы глыбачан дэталёва ўнік і кіраўнік Віцебскай вобласці Мікалай Шарстнёў. Разумеючы, што становішча завода блізкае да безвыходнага, ён прапанаваў дапамагчы завадчанам. На чарговай рабочай нарадзе пры старшыні аблвыканкама было вырашана аказаць завадчанам з Глыбокага з абласнога бюджэту неабходную фінансавую падтрымку. Гэта мера дапаможа заводу папоўніць абаротныя сродкі для працягу дзейнасці і пагасіць даўгі па зарплаце перад сваімі працаўнікамі.

Пастаўскі раён

# Неспакойна цяпер у глыбінцы

■ Кастусь Александровіч

**Па меры пагаршэння агульнай эканамічнай сітуацыі ў краіне становіцца больш трывожнай і крымінагенная абстаноўка ў рэгіёнах.**

Такая тэндэнцыя стала праяўляцца сёлета і ў Пастаўскім раёне, дзе ў першым квартале года зарэгістраваны рост злачыннасці адразу на 14,8 %. Па-ранейшым тут пераважаюць крадзяжы маёмасці, але ўсё, што дрэнна ляжыць, сталі прыбіраць да рук, пераважна ў сельскай мясцовасці. Увогуле цяпер у глыбінцы людзі змяніліся ў горшы бок і ад былой цішыні і спакою вяскоўцы пачалі адвыкаць. Услед за рабаваннем маладой жанчыны ў вёсцы Васіліны трыма невядомымі ў масках падобны стрэс перажылі днямі і пенсіянер з Апідам. Там, праўда, паднялі рукі на старога чалавека яго аднавяскоўцы, якія прычасціліся да выпіўкі. Позна вечарам утраіх яны зацiснулі гаспадара на падворку, а 36-гадовая маці, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, самая смелая, пайшла ў хату і забрала прыхаваныя ў шафе грошы. Другі ж жыхар гэтай мясцовасці з вёскі Дварчаны на падпітку зусім нязветліва сустрэў свайго ўчастковага, які прыехаў разбірацца па сямейным скандале. Дэбашыр аказаў агрэсіўнае супраціўленне работніку міліцыі падчас затрымання і ўдарыў яго кулаком у твар і нагамі па целе. У адносінах усіх гэтых буйных вяскоўцаў узбуджаны крымінальныя справы. Паняце адказнасць таксама і 51-гадовы жыхар вёскі Дамуці. Ён таксама дзейнічаў як звычайны бандыт: вырваў прабой ад уваходных дзвярэй адной з хат, адкуль украў агнястрэльную паляўнічую стрэльбу.

# Аб самым надзённым

## ЯКУЮ СФЕРУ АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІКІ НІ ВАЗЬМІ – УСЮДЫ НАЗІРАЮЦЦА СУР'ЁЗНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**У самой жа айчыннай эканоміцы мала што памянялася, а за першы квартал золатавалютныя рэзервы Беларусі зменшыліся яшчэ амаль на паўмільярда долараў. На шчасце, наша краіна выплаціла апошнюю частку асноўнага доўгу па крэдытах МВФ, якія ў свой час вельмі дапамаглі нам, калі было шмат цяжкасцей у эканоміцы.**

Сёлета ў паўсядзённым жыцці да беларусаў рэдка прыходзяць добрыя навіны, бо практычна ўсюды па краіне складваецца няпростая і нават трывожная сітуацыя ў большасці працоўных калектываў. Да таго ж пастаянна растуць цэны і тарыфы, вось і "Белтэлекам" днямі іх падняў на свае асноўныя паслугі і для абанентаў пакетаў інтэрактыўнага тэлебачання "ZALA". Прэса паведамляла, што ў сярэдзіне красавіка будуць павышаны тарыфы і на перавозкі пасажыраў у грамадскім транспарце, такое рашэнне было ўзгоднена на ўсіх патрэбных узроўнях.

Аднак неспадзявана віцэ-прэм'ер урада Беларусі Анатоль Калінін паведаміў прыемную для насельніцтва інфармацыю. Па яго словах, у бліжэйшы час кошт праезду для беларусаў павышацца не будзе. Між тым, сёлетні 2015 год пачаўся для айчыннай сферы транспарту і камунікацый, у якой занята пад 300 тысяч чалавек, таксама кепска. Асабліва дрэнна спрацавалі занятыя ў гэтай важнай сферы больш 14 тысяч розных транспартных прадпрыемстваў і арганізацый у студзені. Аб гэтым узгадвалася днямі ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы на нарадзе на вышэйшым узроўні па сітуацыі на транспарце, бо ў параўнанні з 2014 годам аб'ёмы перавозак пасажыраў і грузазвароту склалі адпаведна толькі 91,1 – 94,4 %.

Для любой эканомікі гэта галіна з'яўляецца адной з найважнейшых. Беларусь, як вядома, мае вельмі зручнае размяшчэнне ў цэнтры Еўропы, праз яе тэрыторыю праходзяць асноўныя аўтамабільныя, чыгуначныя, водныя і паветраныя шляхі зносін. На жаль, у гэтым годзе транзіт праз нашы землі зменшыўся з-за эканамічнага крызісу ў самой Расіі і цяжкасцей у іншых краінах на постсавецкай прасторы. Да таго і ўнутры праславутага ЕАЭС, для беларускіх перавозчыкаў існуюць праблемы ў сферы міжнародных перавозак, з атрыманнем неабходных дазволаў.

Акрамя павелічэння аддачы транзітнага патэнцыялу Беларусі для забеспячэння станоўчага сальда знешняга гандлю наспела і іншая праблема мадэрнізацыі і абнаўлення сеткі з больш 100 тысяч км аўтамабільных дарог. У нашых бліжэйшых суседзяў на дарогі звяртаюць больш увагі, больш актыўна іх рамантуюць і абнаўляюць. Работнікі, занятыя ў гэтай сферы, ведаюць, што зараз з фінансаваннем рамонтных работ аўтамагістраляў існуюць вялікія цяжкасці, нават на будаўніцтва другой аб'язной трасы вакол Мінска. У сталіцы толькі пасля валявога ўмяшання А. Лукашэнкі гэты праект пачаў далей ажыццяўляцца.

Праблема ў тым, што ў Беларусі элементарна не хапае сродкаў для ўдасканалення сеткі дарог, на ўсе трасы патрабуюцца велізарныя сродкі. Хоць з адной уведзенай дзяржпошліны на допуск да дарожнага руху дзяржказна пачала атрымоўваць да 2 трыльёнаў рублёў. Усяго ж на расходы на дарожную гаспадарку выдзелілі сёлета 10 трлн. рублёў, але гэтага недастаткова. Застаецца адзін выхад з сітуацыі: прыцягненне знешніх замежных інвестыцый. Добра, што беларусам сталі ісці насустрач у гэтым пытанні. Адзін толькі Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў грошы на мадэрнізацыю ўчастку аўтатрас Кобрын-Гомель і Валожын-граніца з Літвой.

На прайшоўшай у сталіцы нарадзе беларускі лідар таксама запатрабаваў ад транспартнікаў хутчэй дабіцца адчувальных зрухаў у вырашэнні наспеўшых праблем галіны, пашырэнні аддачы транспарта-лагістычных цэнтраў, а таксама па развіцці авіяцыйных перавозак. Было вырашана актыўней весці працу па стварэнні нацыянальнага аператара па транспартна-лагістычных паслугах. І гэта правільны накірунак, бо транспартная галіна дае эканоміцы зарабіць кожны дзясяты рубель, фарміруе амаль палову валютных паступленняў у галіне знешніх паслуг. Ёсць падстава спадзявацца, што ў бліжэйшыя некалькі гадоў сетка сучасных абноўленых аўтамагістраляў у Беларусі павялічыцца яшчэ на 5 тысяч км.

Увогуле было б што і куды дастаўляць, транспартнікі(сваю задачу выканаюць, паколькі сёлета ў студзені-лютым яны павялічылі аб'ём грузаперавозак на 8,6 %. Аднак у нашай краіне ў першым квартале года цэны і тарыфы ўжо выраслі амаль на 5 %. Праўда, для пакупнікоў знізіўся кошт мясапрадуктаў, птушкі, масла і гароднiны, бо ім няма куды болей расці на фоне падзення даходаў беларусаў. У нашых бліжэйшых суседзяў у Польшчы, Літве, Латвіі ўвогуле цяпер дэфляцыя, зніжаюцца цэны на асноўныя тавары і паслугі. Для беларусаў, якія жывуць на поўдні краіны, з'явіўся дадатковы стымул ездзіць за пакупкамі ва Украіну, дзе можна значна танней, чым у нас, набыць прадукты, адзенне і абутак.

У самой жа айчыннай эканоміцы мала што памянялася, а за першы квартал золатавалютныя рэзервы Беларусі зменшыліся яшчэ амаль на паўмільярда долараў. На шчасце, наша краіна выплаціла апошнюю частку асноўнага доўгу па крэдытах МВФ, якія ў свой час вельмі дапамаглі нам, калі было шмат цяжкасцей у эканоміцы. Верагодна, няпроста стала цяпер жыць многім, бо беларусы панеслі назад сваю купленую валюту ў банкі і ў мінулым месяцы на 255 млн. долараў болей прадалі, чым купілі. А самай абяркоўваемай людзьмі навіной стала ўвядзенне новага падатку для дармаедаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 23.04.15 | | | | Пятніца 24.04.15 | | | | Субота 25.04.15 | | | | Нядзеля 26.04.15 | | | | Пан. 27.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +5 | +10 | +5 | +2 | +6 | +11 | +7 | +3 | +9 | +15 | +11 | +10 | +13 | +18 | +13 | +11 | +11 | +15 |
| Ціск | 744 | 739 | 735 | 738 | 739 | 741 | 742 | 743 | 743 | 743 | 742 | 742 | 740 | 740 | 739 | 739 | 738 | 739 | 740 |
| Вільготнасць | 81 | 65 | 72 | 75 | 87 | 80 | 50 | 75 | 86 | 80 | 64 | 74 | 81 | 75 | 62 | 80 | 83 | 94 | 73 |
| Вецер м/сек | 5 З | 9 Пд-З | 10 З | 4 Пн-З | 3 З | 5 З | 6 З | 3 Пд-З | 3 З | 7 Пд-З | 10 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 7 Пд-З | 8 Пд-З | 3 Пд | 4 Пд-З | 3 З | 4 Пд-З |

## Дзень за днём

**Беларусь прыпыніла пастаўкі нафтапрадуктаў у Расію, бо страты на тоне дасягалі 100 долараў. На 45 % павялічыліся з пачатку года праблемныя крэдыты айчынных банкаў. Амаль паўмільёна беларусаў закрануў новы Дэкрэт № 3 “Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства”. Цэны на тавары сталі свабоднымі, істотна падаражэлі тэлефонная сувязь, абаненцкая плата тэлебачання Zala. Беспрацоўнымі беларусы цяпер могуць быць толькі 1 год. Беларусь папрасіла крэдыт у Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Праз 5 гадоў беларускія школы пяройдуць да профільнай адукацыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Швейцарыя.** Няпростыя перамовы на працягу 18 месяцаў шасцёркі міжнародных пасрэднікаў па ядзернай праграме Ірана скончыліся паспяхова, з яго здымуць санкцыі.

**Ізраіль.** Прэм’ер-міністр Б. Нетаньяху заявіў, пагадненне па ядзернай праграме Ірана без прызнання права Ізраіля на існаванне толькі павялічвае рызыку пачатку атамнай вайны.

**ЗША.** Пентагон правёў выпрабаванні новай звышмагутнай бомбы, якая можа знішчыць альбо абясточыць самыя ўмацаваныя падземныя бункеры нават ядзерных цэнтраў.

**Расія.** Хоць РФ запрасіла глаў 68 замежных дзяржаў прыехаць на ўрачыстасці 70-годдзя Перамогі ў Маскву, амаль усе кіраўнікі дзяржаў Захаду праігнаравалі запрашэнне Пуціна.

**Англія.** Газета Times паведаміла аб пагрозах Расіі прымяніць супраць ЗША ядзерную зброю ў адказ на любую спробу паспрабаваць сілай вярнуць Крым Украіне.

**Кенія.** Ахвярамі нападзення ісламістаў на інтэрнат універсітэта ў горадзе Гарыса сталі 147 студэнтаў, яшчэ 79 чалавек былі паранены, пакуль не знішчылі 4-х тэрарыстаў.

**Галандыя.** Міжнародная следчая група афіцыйна пацвердзіла, што да знішчэння рускім ЗРК “Бук” самалёта “Боінг” над Данецкам маюць дачыненне афіцэры ГРУ РФ.

**Францыя.** Глава еўрапейскага цэнтра энергетычных даследванняў Дэлла Вінья заявіў, што летам сусветныя цэны на нафту могуць знізіцца нават да 40 USD за барэль.

**Эстонія.** Прэзідэнт Тоомас Ільвес папрасіў НАТО адэкватна ўдарыць па Расіі, калі яна вырашыць атакаваць і вывесці поўнасцю са строю эстонскія камп’ютарныя сеткі.

**Расія.** З-за затрымкі заробкаў са студзеня на будпляцоўцы касмадрома “Усходні” 100 рабочых аб’явілі забастоўку, а 26 з іх пачалі галадоўку пратэсту, каб выплацілі грошы.

**Японія.** Ужо ў 2016 годзе аўтаканцэрн Nissan пачне серыйны выпуск першых беспілотных аўтамабіляў, якія могуць ездзіць па вуліцах без вадзіцеля з дапамогай спецтэхналогій.

**Расія.** З-за парушэнняў правілаў лоўлі рыбы ў Ахоцкім моры затануў вялізны аўтаномны траўлер-маразільнік “Далёкі Усход”, загінулі капітан з памочнікам, 54 члены экіпажа.

**Венесуэла.** Ноччу ў штаце Кахедэс разбіўся лёгкаматорны самалёт з тонай наркотыкаў какаіну, загінулі і трое наркакур’ераў, адсюль атруту найчасцей перапраўляюць у ЗША.

**Швейцарыя.** Міжнародная федэрацыя футбола (ФІФА) адвергла зварот групы 18 сенатараў Кангрэса ЗША пазбавіць Расію права правядзення чэмпіянату свету 2018 года.

**Расія.** Дарадца пасольства Беларусі ў Маскве У. Калтовіч пацвердзіў, што даўгі расіян за беларускія тавары выраслі на чвэрць, да 3,6 трлн. рублёў, 20 % іх фірм – махляры.

## У Беларусі скарэкціраваны тарыфы на прыродны газ для некаторых ІП і юрасоб



■ БЕЛТА

**У Беларусі скарэкціраваны тарыфы на прыродны газ для некаторых індывідуальных прадпрымальнікаў і юрыдычных асоб. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі №28 ад 16 красавіка 2015 года, якая апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

Дакумент уносіць змены ў п.1 пастановы Мінэканомікі №94 ад 24 снежня 2014 года «Аб цэнах на прыродны газ». У прыватнасці, кошт за 1 тыс. куб м прыроднага газу ўсталёўваецца ў памеры Br1,971 млн для юрыдычных асоб, індывідуальных прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць вытворчасць гаспадарча-бытавых вырабаў са шкла, пры спажыванні аб'ёме прыроднага газу ў 2014 годзе да 500 млн куб.м, для юрыдычных асоб, індывідуальных прадпрымальнікаў, якія вырабляюць шкляную тару, пры спажыванні аб'ёме прыроднага газу ў 2014 годзе ад 11 млн куб.м да 500 млн куб.м, для юрыдычных асоб, індывідуальных прадпрымальнікаў, якія вырабляюць ліставае шкло, пры спажыванні аб'ёме ад 90 млн куб .м да 500 млн куб.м.

Тарыф Br2 млн 190,876 тыс., які быў усталяваны для ІП і юрасоб пры спажыванні аб'ёме прыроднага газу ў 2014 годзе ад 500 і звыш млн куб.м (акрамя ІП і юрасоб, якія выкарыстоўваюць прыродны газ для вытворчасці азотных угнаенняў), павышаецца да Br2 млн 192,519 тыс.

Дакумент уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання і распаўсюджвае свае дзеянне на адносіны, якія ўзніклі з 1 красавіка 2015 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр фінансаў Беларусі У. Амарын заявіў, што трэба спыніць фінансаванне гаспадаракбанкрутаў, іх даўгі значна перавысілі ў 4 абласцях парог эканамічнай бяспекі.

**Мікашэвічы.** У рамках аптымізацыі штату нават вядомае прадпрыемства “Граніт” пачало звальняць персанал, цяжкасці з выплатай зарплаты ўзніклі і ў завода “Спецжалезабетон”.

**Слуцк.** Мясцовы 27-гадовы беспрацоўны махляр падмануў 25 сваіх знаёмых і ўзяў у іх нібыта ў доўг 50 тысяч долараў, абяцаючы вярнуць потым грошы з працэнтамі.

**Мінск.** Прэс-сакратар БПЦ С. Лепін пацвердзіў, што візіт Папы Рымскага ў Беларусь залежыць ад пісьмовага дазволу Рускай Праваслаўнай царквы, якога зараз няма.

**Гомель.** Толькі 3 прадпрыемствы вобласці не разлічыліся са сваімі работнікамі, па краіне іх колькасць расце і дасягнула 518, найгоршая сітуацыя на Міншчыне і Віцебшчыне.

**Мінск.** Былы міністр працы А. Сасноў папярэдзіў, што кампанія супраць дармаедаў не прынясе істотных паступленні грошай у бюджэт, гэта спроба адабраць у людзей апошняе.

**Ашмяны.** КДБ Беларусі, як паведаміў А. Лукашэнка, выявіў, што ў мясцовай мытні ў злачынную карупцыйную дзейнасць уцягнулі 19 супрацоўнікаў паста “Каменны Лог”.

**Мінск.** Нягледзячы на крызіс, як папярэдзіў палітолаг В. Карбалевіч, большасць беларусаў сёлета пойдуць на выбары, бо ведаюць іх вынік, а ўлада набрала бонусаў з-за Украіны.

**Гродна.** Жыхароў абласнога цэнтра парадавала, што Беларуская чыгунка дамовілася з калегамі з Літвы адкрыць неўзабаве прамы чыгучны рэйс Вільня-Гродна.

**Мінск.** Ва ўзаемаадносінах з ЗША, як падкрэсліў палітолаг Юрый Дракахруст, цяпер А. Лукашэнка хоча мець такі статус, які ў свой час мела Румынія пры Чаўшэску.

**Магілёў.** Міліцыя затрымала групу з пяці маладых зламыснікаў, якія прадавалі праз Інтэрнэт псіхатропныя рэчывы для курэння і спайсы , ім пагражае да 12 гадоў турмы.

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў заявіў, што дэкрэт аб “дармаедах” і прымусовых работах – гэта нонсенс, бо эканоміка стала разваліваца і расці беспрацоўе, цяжка гэта зразумець.

**Гродна.** Міліцыя затрымала 45-гадовага мярзотніка гараджаніна, які патаемна ад жонкі, яшчэ ва ўзросце 12 гадоў цэлую пяцігодку гвалтаваў сваю непаўналетнюю дачку.

**Мінск.** Асабліву падтрымку грамадства, як заявіла міністр працы і сацабароны Беларусі М. Шчоткіна, патрабуюць 538 тысяч інвалідаў, 127 тысяч адзінокіх пажылых ветэранаў.

**Гомель.** Былы ігрок ФК “Гомель” А. Бычанок пацвердзіў, што ён з калегамі звярнуцца і ў Вярхоўны суд Беларусі, каб вярнуць няывыплачаную па кантракце зарплату за 4 месяцы.

## Кошт навучання ў ВНУ РБ прывязаны да тарыфнай стаўкі першага разраду

■ newsbel.by

**Падчас онлайн-канферэнцыі, якая адбылася 16 красавіка, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь, заявіў, што вырасце кошт навучання ў ВНУ краіны.**

У першую чаргу, гэта закране першакурснікаў. Са слоў Міхаіла Журакова, кошт навучання ў ВНУ РБ прывязаны да тарыфнай стаўкі першага разраду. Значыць, са зменай тарыфнай стаўкі будзе змяняцца і кошт навучання. Гэта сур'ёзнае пытанне, якое ўзгадняласяў Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі, у Савеце Міністраў Беларусі, з Міністэрствам фінансаў Беларусі і з Міністэрствам эканомікі Беларусі. У 2011-2012 гг. кошт навучання павышаўся ў 4 разы, у 2012-2013 гг. ён заставаўся нязменным, а ў 2013-2014 гг. і 2014-2015 гг. ён павысіўся 1 раз да пачатку навучальнага года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Самым вялікім у краіне па колькасці працуючых 754 чалавекі стала мясцовае ААТ “КІМ”, у адносінах якіх сярод 45 гаротнікаў пачата справа аб банкруцтве.

**Орша.** Самы хлебны рэгіён Прыдзвіння перад веснавой сяўбой атрымаў яшчэ 72 трактары МТЗ розных сучасных мадыфікацый, у тым ліку і энерганасычаных.

**Віцебск.** Перад прэзідэнцкімі выбарамі ў сталіцу вярнулі на пасаду начальніка абласной міліцыі 47-гадовага генерал-маёра Ігара Яўсеева, сюды прыйшоў генерал Віктар Сянько.

**Гарадок.** Неспадзявана для многіх ураджэнца горада 60-гадовага Канстанціна Мартынецкага прызначылі першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

**Талачын.** З-за ранняй цёплай вясны з апераджэннем графіку ў райцэнтры пачаліся работы па падрыхтоўцы да абласных “Дажынак-2015”, у ЦРБ адкрыюць аддзяленне гемадыялізу.

**Ушачы.** Следчыя пачалі высвятленне абставін гібелі 77-гадовай жонкі і яе 75-гадовага мужа ў вясковай хаце, адна з версій здарэння – моцны ўнутрысямейны канфлікт.

**Віцебск.** У закрытым працэсе суд пакараў палітыка С. Рыжова 6,5 гадамі турмы за хуліганскія дзеянні і за прымусовыя дзеянні сексуальнага характару ў медыцынскім выцвярэзніку.

**Наваполацк.** У новым жылым мікрараёне нафтаграда адкрыўся адзін з самых вялікіх у Беларусі дзіцячых садоў з музычнай, спартыўнай і гімнастычнай заламі для 300 дзяцей.

**Глыбокае.** На месцы паваленага ўраганам бярозавага гаю побач з птушкафабрыкай пасадзілі падчас акцыі “Тыдзень лесу-2015” 4 тысячы саджанцаў ёлкі, клёну і ліпы.

**Коханава.** У мясцовым прафліцэі пачалі падрыхтоўку вадзіцеляў вялікагрузных аўтамабіляў з прычэпамі катэгорыі Е, набралі першую групу з 18 чалавек.

**Докшыцы.** Раніцай на дарозе каля райцэнтра 40-гадовы вадзіцель выехаў на сустрэчную паласу руху і загінуў пасля сутыкнення з другой іншамаркай, яе кіроўца не пацярпеў.

**Паставы.** У райцэнтры пачаўся суд над 35-гадовым беспрацоўным мінчанінам за ўгон уласнага джыпа Паршэ ў жыхара райцэнтра, ён абмяняў 2 свае машыны на гэта аўто.

**Ушачы.** Знакаміты архітэктар, лаўрэат Ленінскай прэміі Юрый Градаў згадзіўся стаць навуковым кансультантам работ па рэстаўрацыі мемарыяльнага комплексу “Прарыў”.

**Гарадок.** Ля вёскі Селішча пад вечар малады 26-гадовы кіроўца не справіўся з кіраваннем “Масквіча-2140”, зляцеў у кювет і перакуліўся, у ДТЗ загінуў яго 38-гадовы пасажыр.

**Лепель.** Настаўнікі гісторыі Слабадской СШ, краязнаўцы В. Тухта і М. Анікей выпусцілі ў свет кнігу “Вяртанне з небыцця” пра лётчыка М. Пшонку, які прапаў без вестак на вайне.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

**200 гадоў таму, ментальна, было зусім іншае Глыбокае. Тэрыторыя сённяшняй Беларусі называлася Літвой, а яго народ – літвіны. Літвіны, збольшага, па веравызнанні былі ўніятамі, а гэта, як лічаць гісторыкі, – 60-80% насельніцтва тагачаснай Літвы (Беларусі). Астатняя рэшта насельніцтва – іўдзеі (яўрэі), мусульмане (татары), каталікі (манахі каталіцкіх ордэнаў і ксяндзы).**

**У 1839 годзе, падчас расійскай акупацыі, уніяцкая канфесія на Беларусі была скасаваная, а ўніяты гвалтоўна далучаныя да Рускай праваслаўнай царквы, хто не пажадаў стаць праваслаўным – перайшоў у каталіцтва. Літву перайменавалі ў Беларусь, а літвінаў – у беларусаў. Гісторыя пайшла ў іншым рэчышчы.**

*Хрост і кумаўства: сацыяльныя стасункі ў межах глыбоцкай уніяцкай супольнасці*

# Мар'яна – найбольш папулярнае імя ўніяцкага Глыбокага

У мінулым годзе мы распачалі публікаваць гістарычныя матэрыялы Надзеі Храпавіцкай з нагоды 600-годдзя Глыбокага [“Глыбокае: невядомае пра вядомае альбо рэбусы гісторыі” №№ 28 (744)-№ 29 (745) за 2014 г]. Была запланаваная публікацыя цэлай серыі матэрыялаў, якая прысвечаная радзівілаўскай частцы Глыбокага (горад Глыбокае). Аднак, публікацыі перапыніліся ў сувязі з вялікай занятасцю аўтаркі. Сёння мы вырашылі аднавіць публікацыі матэрыялаў са згаданай серыі.



**Надзея Храпавіцкая**, *гісторык, г. Вільня*



Істотнай з’явай, наўпрост звязанай з нараджэннем новых чальцоў хрысціянскай супольнасці ў Глыбокім, быў хрост і ўсталяванне сацыяльнай сувязі кумаўства. Спецыфіка гэтай сувязі адлюстроўвае спецыфіку сацыяльных дачыненняў у грамадзе. Паводле метрычных звестак выяўляецца наступнае: у якасці хросных бацькоў (кумоў, кмотраў) глыбачане запрашалі пераважна таксама глыбачанаў, прычым абмежаванне кумаўскіх сувязяў толькі межамі мястэчка сустракаецца нават часцей за заключэнне шлюбаў у межах мястэчка (пра тэрытарыяльны падбор шлюбных партнёраў гл. ніжэй). Нават калі шлюб заключаўся з прадстаўніцай з па-за Глыбокага, усё адно ў хросныя найчасцей запрашаліся глыбачане. Такім чынам, мы можам казаць пра адносную замкнёнасць глыбоцкага “кола кумоў”. Выбар кумоў у тагачаснай супольнасці меў, апрача рэлігійнага, яшчэ і практычны сэнс. Хросныя бацькі меліся спрыяць хрэсніку ў выпадку, калі з біялагічнымі бацькамі здарыцца бяда. Таму абгрунтаваным і рацыянальным крокам глыбоцкай уніяцкай супольнасці можна лічыць даволі блізкасны тэрытарыяльны падбор хросных.

Размыканне гэтага кола назіраецца толькі ў выпадку, калі ў якасці хроснага запрашаецца высокапастаўленая асоба (напрыклад, Плескачэвічы мелі звычай запрашаць такіх асобаў, як JP Казімер Шаркевіч ротмістр павету Браслаўскага альбо WJP Юзаф Здраеўскі асэсар павету Дзісненскага). У папярэдняй главе таксама згадвалася сям’я Пуховічаў, якая захавала мяшчанскі статус і, відавочна, з-за таго карысталася даволі высокай папулярнасцю ў якасці хросных. Другі выпадак значнага размыкання гэтага “кола” заўважаецца толькі ў 1802 г., калі сярод глыбачанаў узнікла тэндэнцыя клікаць у якасці кумоў прадстаўнікоў Александрыйскага гусарскага палка. Усяго ў 1802 г. налічваецца 11 такіх запрашэнняў (з 23 выпадкаў хросту) і адно – у 1804 г., калі гэтая тэндэнцыя відавочна вычарпала сябе. Паводле этнаграфічных звестак, звычай браць у якасці хроснага якогасьці “чужака” (жабрака, незнаёмага і г.д.) павязаны з вераннем, што падобным чынам ад немаўляці адводзіцца бяда. Напрыклад, падобныя практыкі фіксаваліся ў сем’ях, дзе часта паміралі дзеці. Звернем увагу на тое, што з’ява запрашэння жаўнераў (якія, верагодна, знаходзіліся ў мястэчку на часовым пастоі) распаўсюдзілася непасрэдна пасля дэмаграфічнай катастрофы 1800-1801 гг., характарыстыкай якой стала масавая смяротнасць і масавы сыход хрысціянскага насельніцтва з мястэчка. Што сталася прычынай гэтай з’явы, нам невядома (магчыма, пік эпідэмічнага захворвання) – для высвятлення гэтага пытання патрабуецца прыцягненне дадатковых крыніц.

Варта таксама заўважыць, што хрост дзіцяці быў для сем’яў нагодай замацаваць стасункі менавіта з іншымі сем’ямі, таму на ролю хросных запрашаліся пераважна жанатыя людзі. Так, напрыклад, магчыма прасачыць паводле метрыкаў, што цягам усяго разгляданага перыяду выяўлена толькі 12 выпадкаў, калі ў якасці хроснай маці выступала незамужняя дзяўчына (падлік зроблены паводле прозвішчаў з канчаткам ***–ўна***) .

У звязку з хростам звернем увагу і на тэндэнцыі іменавання глыбачанаў-уніятаў. Паводле метрычных запісаў уяўляецца магчымым прасачыць рысы, тыповыя для імёнаў і прозвішчаў глыбачанаў у разгляданы перыяд. У метрыках пераважна згадваюцца паланізаваныя варыянты імёнаў глыбачанаў (Ежы, Гжэгаж, Катажына і г.д.), але гэта не носіць выключна сістэматычнага характару, і часам магчыма сустрэць формы імёнаў, адрозныя ад польскіх. Гэтыя формы імёнаў, якія час ад часу праяўляюцца ў метрыках, магчыма лічыць гутарковымі формамі, якія глыбачане ўжывалі ў штодзённай гаворцы і звароце адзін да аднаго. Ніжэй падаецца спіс выяўленых такіх формаў, з пазначанымі праз рыску паралельнымі паланізаванымі адпаведнікамі: Васіль – Базылі, Грышка – Грыгоры альбо Гжэгаж, Донка – Даніэль, Змітрок – Дэмэтры, Лаўрын – Ваўжынец, Мацей – Матэуш, Нікіфар – Ніцэфор, Цімошка –Тыматэуш; Дарка – Дарота, Гапка альбо Агапка – Агата, Кастуся – Канстанцыя, Кася – Катажына, Наста – Настаз’я альбо Анастазыя, Полька – Палонія альбо Апалонія, Рожа – Разалія, Тося – Тэафіля альбо Тэадора, Юста – Юстына.

У цэлым за перыяд 1798-1816 гг. было выяўлена 30 жаночых імёнаў і 42 мужчынскіх, якія даваліся ахрышчаным у якасці першага імені. Адзначым, што кола папулярных імёнаў (асабліва жаночых) было даволі абмежаванае дзесьці дзясяткам варыянтаў, астатнія зарэгістраваныя імёны мелі нізкую ступень распаўсюджанасці. Для мужчынаў у цэлым быў характэрны больш шырокі спектр імёнаў. Дзесяць найбольш папулярных імёнаў нованароджаных глыбачанаў і глыбачанак прыведзеныя ў табліцы.

Акрамя таго, варта адзначыць, што глыбачане-ўніяты зазвычай мелі два імені – адно дадзенае падчас хросту, а другое – падчас бежмавання, якое адбывалася адначасова з хростам. Прычым у значнай колькасці выпадкаў новаахрышчанае немаўля атрымлівала бежмаванае імя ў гонар свайго хроснага – так, напрыклад, калі хросны бацька Юзафа меў імя Міхал, то хлопчык атрымліваў імя Юзаф Міхал.

З іншага боку, існаванне дзяцей, народжаных на пачатку XIX ст., у Расійскай імперыі, дзе паступова набірала абароты русіфікацыя, накладала адбітак і на мадыфікацыю формаў іх імёнаў. Так, у рэвізскіх сказках колішні Казімер ператвараўся ў Кузьму, Юзаф – у Іосіфа ці нават Осіпа, Ян рабіўся Іванам, Якуб – Якавам, а Стэфан – Сцяпанам. Прычым напачатку прасочваецца несістэматычнасць расійскіх уладаў у трактаванні і перакладзе імёнаў прадстаўнікоў новадалучаных тэрыторый: у рэвізскіх сказках 1811 г., складзеных па-руску, яшчэ раз-пораз фіксуюцца формы Тэадор, Томаш, Лаўрын, Базыль, Геліяш, Цімох, Ержы – але ў больш позніх сказках яны ўжо ператвараюцца ў Фёдара, Фаму, Лаўрэнція, Васілія, Ілью, Цімафея, Юрыя. Што цікава, жаночыя імёны даўжэй захоўваюць у рэвізскіх сказках сваю адметнасць: так, Гануля, Гелена, Марцэля, Полька, Пятруля, Цэцылія, Юста, Малгарэта, Кляра, Агнеша, Аўдося, Зося, Зонька, Марута, Францыся, Крыся, Аксеня, Паланея і інш. сустракаюцца аж да 1850 г. – праўда, паступова ўсё больш замяняючыся рускімі адпаведнікамі.

Звяртае на сябе ўвагу таксама феномен яскравага размежавання дзяўчат і замужніх жанчын-глыбачанак праз мадыфікацыю канчатка прозвішча. Так, паводле метрычных звестак ясна прасочваецца, што заўжды, калі прозвішча дазваляла падобную дыферэнцыяцыю, яна мела месца (напрыклад, Пуховіч – Пуховічаўна – Пуховічава, Петух – Петухоўна – Петухова, Сташкун – Сташкуноўна – Сташкунова, Кека – Кекаўна – Кекава). У выпадку прозвішчаў на ***–ская/-цкая***, аднак, падобная заканамернасць не была пануючай: так, як дзяўчына, так і замужняя жанчына можа згадвацца ў метрыцы пад ідэнтычным варыянтам прозвішча (напрыклад, Снарская, Плескачэўская і г.д.). Аднак у пэўных выпадках заўважаныя адметныя формы прозвішчаў незамужніх дзяўчат на ***–ская/-цкая***: Бельшчанка – ад Бельскі, Дубаўшчанка – ад Дубоўскі, Загараўшчанка – ад Загароўскі, Красаўшчанка – ад Красоўскі, Храпавідзянка – ад Храпавіцкі, Шварадзянка – ад Шварацкі, Шыдлаўшчанка – ад Шыдлоўскі.

## Імёны нованароджаных глыбачанаў-уніятаў паводле распаўсюджанасці ў 1798-1816 гг.

| Імёны | Дзявочыя | Колькасць | Хлапечыя | Колькасць |
|---|---|---|---|---|
| 1 | **Мар’яна** | **26** | **Ян** | **19** |
| 2 | **Анастазыя/Настаз’я/Наста** | **14** | **Якуб** | **12** |
| 3 | **Тэадора** | **10** | **Гжэгаж/Грыгоры** | **8** |
| 4 | **Анна** | **9** | **Леон** | **8** |
| 5 | **Агата** | **7** | **Стэфан** | **8** |
| 6 | **Тэрэса** | **6** | **Юзаф** | **8** |
| 7 | **Цэцылія** | **6** | **Тэадор** | **7** |
| 8 | **Еўдакія** | **5** | **Казімер** | **6** |
| 9 | **Апалонія/Палонія** | **4** | **Міхал** | **6** |
| 10 | **Дарота** | **4** | **Антоні** | **5** |

Крыніца: ДГАЛ. Ф. 634, в. 4, спр. 113; Ф. 634, в. 4, спр. 114.

# Візу – толькі пасля здачы адбіткаў пальцаў




**З 23 чэрвеня атрымаць шэнгенскую візу можна будзе пасля здачы адбіткаў пальцаў.**

Амбасада Польшчы папярэджвае пра новыя правілы атрымання віз.

З 23 чэрвеня 2015 года плануецца ўвядзенне ў эксплуатацыю візавай інфармацыйнай сістэмы (ВІС) ва ўсіх пасольствах і консульскіх установах дзяржаў-удзельніц Шэнгенскага пагаднення, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзяржаў, якія ўваходзяць у праграму Усходняга партнёрства, да якіх належыць і Беларусь.

Пра гэта паведамляе пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі.

Візавая інфармацыйная сістэма прызначана для абмену візавымі дадзенымі паміж дзяржавамі-ўдзельнікамі Шэнгенскага пагаднення. Асноўнымі мэтамі ВІС з'яўляецца аблягчэнне кантролю на знешніх межах і павышэнне бяспекі, у тым ліку для заяўнікаў.

Візавая інфармацыйная сістэма ВІС дзяржаў-удзельніц Шэнгенскага пагаднення была створана 11 кастрычніка 2011 года. З тых часоў ажыццяўляецца паступовае падключэнне да яе візавых аддзелаў усіх пасольстваў дзяржаў-удзельніц Шэнгенскага пагаднення. Гэта значыць, што да цэнтральнай базы дадзеных ВІС падключаюцца ўсе консульскія прадстаўніцтвы і кантрольна-прапускныя пункты на межах Шэнгенскай зоны.

Увядзенне ВІС суправаджаецца абавязковым прадастаўленнем усімі заяўнікамі ва ўзросце, старэйшым за 12 гадоў, біяметрычных дадзеных (адбіткі пальцаў і біяметрычная фатаграфія).

У сувязі з ужываннем ВІС дзейнічаюць наступныя змены:

■ пасля 23 чэрвеня 2015 года пры першай падачы хадайніцтва на атрыманне візы неабходная асабістая яўка ўсіх заяўнікаў, якія дасягнулі ўзросту 12 гадоў, у мэтах збору біяметрычных дадзеных (адбіткі ўсіх пальцаў і фота);

■ пасля атрымання адбіткаў пальцаў яны захоўваюцца ў ВІС на працягу 59 месяцаў і могуць паўторна выкарыстоўвацца пры падачы новых візавых хадайніцтваў; такім чынам, неабходнасць у асабістай яўцы заяўніка можа адпасці на працягу пяці гадоў з моманту апошняй працэдуры зняцця адбіткаў пальцаў, нават у тым выпадку, калі гэтая працэдура адбывалася ў прадстаўніцтве іншай дзяржавы-ўдзельніцы Шэнгенскага пагаднення; у такім выпадку ў візавай анкеце Вам варта абавязкова пазначыць дату апошняга зняцця адбіткаў пальцаў;

■ з дапамогай доступу да базы дадзеных ВІС памежныя органы маюць магчымасць праверыць асобу кожнага грамадзяніна, які ўязджае на тэрыторыю дзяржаў-удзельніц Шэнгенскага пагаднення;

■ ад абавязку прадастаўлення адбіткаў пальцаў вызваленыя толькі асобы, якія фізічна не ў стане гэта зрабіць, напрыклад, пры адсутнасці пальцаў. Калі іх менш за дзесяць, то здымаюцца адбіткі тых пальцаў, якія маюцца; пры наяўнасці іншых часовых перашкод (напрыклад, пры пераломе пальцаў альбо з-за знаходжання ў шпіталі з прычыны цяжкага захворвання або траўмы) неабходнасць прадастаўлення адбіткаў пальцаў таксама можа адпасці; аднак гэта павінна быць зроблена пры наступнай падачы візавага хадайніцтва.



# У Паставах адбылася вечарына памяці Алеся Касцяня

**У Паставах у пятніцу 17 красавіка адбылася вечарына, прысвечаная 60-годдзю з Дня нараджэння паэта, грамадскага дзеяча і журналіста Алеся Касцяня. На жаль, з-за цяжкай хваробы ён пакінуў гэты свет у 54 гады.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Таццяна Смоткіна**, *фота*

Мерапрыемства праходзіла ў Пастаўскай раённай бібліятэцы, арганізавала яго пастаўская раённая суполка Таварыства беларускай мовы. Дарэчы, Алесь у свой час таксама быў сябрам гэтага Таварыства. Вяла вечарыну супрацоўніца Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі імя Уладзіміра Дубоўкі Людміла Сяменас.

На вечарыне прысутнічалі маці, жонка, дачка і ўнучка Алеся, яго сябры, знаёмыя, аматары яго творчасці. Пра Алеся Касцяня ўзгадалі як асобу, бацьку, таварыша, а таксама як змагара за беларускае адраджэнне.

*– Гэта быў журналіст ад Бога, любіў пісаць пра людзей ад Зямлі, пра простых людзей. Самыя яго цікавыя матэрыялы былі менавіта пра раённыя цэнтры, пра вёскі,* – сказаў сябра Алеся Міхал Гіль.



Унучка і маці Алеся Касцяня падчас вечарыны.

Падчас вечарыны адбылася прэзентацыя апошняй, незакончанай кнігі Алеся Касцяня "Мястэчка маёй любові", якую ён прысвяціў родным Паставам і якую дапамаглі выдаць яго сябры. Але і незакончаная, гэта кніга выклікала вялікі інтарэс у чытачоў. "Мястэчка маёй любові" – гэта незакончанае Алесем эсэ, напісанае крыху ў іранічнай манеры, але наскрозь працятае любоўю да роднага горада і яго насельнікаў.

Застаўся нявыдадзеным зборнік эсэ Алеся "Простыя рэчы", якія ён пісаў для газеты "Звязда" і марыў выдаць асобнай кнігай. Спадзяемся, што намаганнямі грамадскасці гэта кніга таксама пабачыць свет і дойдзе да чытача.

Алесь Касцень нарадзіўся 18 красавіка 1955 года ў Паставах. Закончыў СШ №2 г. Паставы, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыў у горадзе Паставы, працаваў журналістам у газетах «Пастаўскі край», «Звязда», «Народнае слова», «Вольнае Глыбокае», "Сумежжа". Памёр 17 верасня 2009 года.

# Археолагі разам з дайверамі даследуюць каля 50 вадаёмаў Беларусі

**Вучоныя-археолагі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Беларусі 7 красавіка заключылі дагавор аб супрацоўніцтве з дайвінг-цэнтрам «Марскі пегас».**

Як паведамілі ў прэс-службе НАН Беларусі, з боку навуковай арганізацыі пагадненне падпісаў кіраўнік Інстытута гісторыі Вячаслаў Даніловіч, з боку дайвінг-цэнтра – дырэктар «Марскога пегаса» Андрэй Ліхачоў.

Заключэнне гэтага дагавора разглядаецца як «першы крок у справе развіцця айчыннай падводнай археалогіі». Паводле гэтага дакумента, спецыялісты дайвінг-цэнтра будуць абследаваць вадаёмы Беларусі, а таксама дапамогуць перападрыхтаваць маладых гісторыкаў у якасці падводных археолагаў.

Паведамляецца, што найбліжэйшым часам беларускія дайверы разам з археолагамі Інстытута гісторыі даследуюць прыкладна 50 вадаёмаў, сярод якіх рака Студзёнка (месца пераправы напалеонаўскай арміі), возера Свіцязь. Ёсць прапанова даследаваць нават драўляны вадаправод у Слоніме, частка якога знаходзіцца пад вадой.

Археолагі спадзяюцца, што пры дапамозе прафесіяналаў з «Марскога пегаса» яны змогуць адшукаць унікальныя прадметы, якія «знойдуць месца ў айчынных музеях».

Варта адзначыць, што ў 2013 годзе на рэчцы Віхра пад Мсціславам спецыялісты дайвінг-цэнтра «Марскі пегас» разам з магілёўскімі археолагамі паднялі з глыбіні 3,5 метра даспехі рыцара Вялікага Княства Літоўскага XV стагоддзя.

*БелаПАН*



# У Віцебску завершанае следства па справе двух расіян, якія займаліся скімінгам

**Упраўленнем Следчага камітэта па Віцебскай вобласці завершанае расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да двух грамадзян Расіі, якія ўстанаўлівалі скімінгавыя прылады на банкаматах Віцебска і Мінска.**

■ **Вячаслаў Будкевіч**, *БелаПАН*

Як паведаміла БелаПАН афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, следствам устаноўлена, што 29-гадовы і 32-гадовы ўраджэнцы Казані, рэалізуючы распрацаваную імі злачынную схему, прыехалі ў Беларусь, дзе з прымяненнем скімінгавых прылад выкралі грашовыя сродкі жыхароў Віцебска і Мінска больш як на 80 млн. рублёў. За два месяцы злачыннай дзейнасці абвінавачаныя выкралі грошы з банкаўскіх плацежных карт, якія належаць больш як 30 пацярпелым.

У асобных эпізодах абвінавачаныя не давялі злачынны намер да канца ў сувязі з адсутнасцю на рахунках сумы, што запытвалася.

Дзеянні абвінавачаных кваліфікаваныя следствам на падставе ч. 1 арт. 14, ч. 3 арт. 212 КК (замах на крадзеж маёмасці шляхам увядзення ў камп'ютарную сістэму падманнай інфармацыі, учыненае групай асоб паводле папярэдняй змове, у буйным памеры, спалучанае з несанкцыянаваным доступам да камп'ютарнай інфармацыі), а таксама на падставе ч. 1 арт. 14, арт. 352 КК (замах на несанкцыянаванае капіяванне інфармацыі, якая захоўваецца ў камп'ютарнай сістэме і на машынных носьбітах, што пацягнула прычыненне значнага ўрону).

Мера стрымання, прымененая да абвінавачаных, падчас следства не змянялася. З моманту затрымання і дагэтуль яны ўтрымліваюцца пад вартай.

Крымінальная справа перададзеная пракурору для накіравання ў суд.

## Аляксей Протас:
# Парушальнікаў мы вылоўліваць будзем яшчэ больш



**Паляванне - адно з самых старажытных і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе пражытак, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Шмат хто з паляўнічых разглядае паляванне не як падставу здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто каго перахітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўдны трафей.

Каб паляванне прыносіла толькі станоўчыя эмоцыі, добры выкід адрэналіну, паляўнічым неабходна строга выконваць Правілы палявання, тэхніку бяспекі, заўсёды мець пры сабе неабходныя дакументы і памятаць, што любое паляванне ў радасць, калі яно законнае і без чалавечых ахвяраў, бо больш каштоўнага за чалавечае жыццё няма нічога. У сувязі з адкрыццём вяснова-летняга сезону палявання на дзікіх капытных жывёл неабходна нагадаць паляўнічым аб строгім захаванні мер бяспекі, як на самім паляванні, так і пры абыходжанні са зброяй. Заўсёды неабходна памятаць, што пры любым выпадку са зброяй заўсёды неабходна абыходзіцца як з зараджанай, не дапускаць да зброі дзяцей, асобаў, што знаходзяцца ў стане алкагольнага або наркатычнага ап'янення, у стане душэўнага хвалявання і многіх іншых фактарах.

Аднак не заўсёды чалавек са зброяй выконвае правілы палявання і тым самым добраахвотна становіцца парушальнікам.

Так, 7 красавіка 2015 года каля 19 гадзін вечара супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету знаходзіліся ў чарговым планавым рэйдзе паблізу в. Кураполле Пастаўскага раёна. Супрацоўнікі інспекцыі непрыкметна размясціліся паблізу ракі Лучайка, што працякае праз в. Кураполле, і сталі назіраць. Не прайшло і 20 хвілін, як з боку вёскі да ракі накіраваліся двое мужчын, адзін з якіх нёс у руках чахол са стрэльбай. Зайшоўшы на вясковыя могілкі, мужчына дастаў з футарала чахол, дастаў стрэльбу і разам з напарнікам накіраваўся на бераг ракі.

Інспектары непрыкметна набліжаліся да мужчын, адначасова назіраючы за паляўнічымі. Чалавек зарадзіў стрэльбу, і, пахадзіўшы па беразе ракі, абодва мужчыны селі на зямлю. У гэты час уладальнік зброі перадаў яе сваіму напарніку, які каля 10 хвілін уважліва ўзіраўся ў ваду, мабыць, у чаканні бабра, якіх у рацэ шмат.

Стала хутка цямнець, і інспектары вырашылі праверыць у паляўнічых дакументы. Непрыкметна падышоўшы да мужчын, інспектары папрасілі іх прад'явіць дакументы.

У першыя хвіліны нечаканай сустрэчы з інспектарамі ў мужчын былі спалох і здзіўленне адначасова. Дакументаў у гора паляўнічых не аказалася, уладальнік стрэльбы, мясцовы жыхар, усе дакументы на зброю пакінуў дома, а ў яго напарніка іх ніколі і не было. На пытанне інспектара, што паляўнічыя робяць каля ракі, мужчыны адказалі, што чакаюць бабра, але пры гэтым дазволу на яго здабычу ў іх няма. Праз некаторы час, калі прайшоў спалох, затрыманыя сталі адмаўляць факт палявання на бабра, а сцвярджалі, што проста прыйшлі пастраляць у вольны час па дрэвах, будынках.

Аднак закон суровы і інспектары склалі адміністрацыйныя пратаколы, зброю канфіскавалі.

За парушэнне правілаў палявання, уладальнік і яго сябар могуць атрымаць штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь з пазбаўленнем права на паляванне. Вось такое атрымалася паляванне.

Праца ў дзяржаўных інспектараў з кожным годам становіцца ўсё больш небяспечнай, парушальнікі аказваюць не толькі непадпарадкаванне або супраціў, але і ідуць на забойства работнікаў інспекцыі.

Так, раніцай 11 красавіка 2015 года пры выкананні службовых абавязкаў падчас затрымання браканьера загінуў наш таварыш, дзяржаўны інспектар Аршанскай міжраённай інспекцыі Раўкоў Генадзь Іванавіч, светлая яму памяць.

Забойца затрыманы, але ад гэтага нашага таварыша, мужа, бацьку, дзядулю, брата, мужыка, проста сапраўднага Чалавека, не ажывіць. Хай ведаюць браканьеры, што інспектары не спалохаліся, толькі яшчэ больш з'ядналіся і пераканаліся ў тым, што наша праца патрэбная людзям і дзяржаве, а парушальнікаў мы вылоўліваць будзем яшчэ больш.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выказваюць вялікую ўдзячнасць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

**Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70 - кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Жыхар Талачына, які забіў інспектара Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, – раней судзімы супрацоўнік міліцыі

**Жыхар Талачына, які забіў інспектара Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце, – раней судзімы супрацоўнік міліцыі, паведамілі ў праграме "Контуры" тэлеканала ОНТ вечарам 19 красавіка.**

■ **Вячаслаў Будкевіч,** *БелаПАН*

Паводле інфармацыі тэлеканала, асуджаны гэты чалавек быў за крадзеж і спробу падпалу.

Нагадаем, раніцай 11 красавіка супрацоўнікі Аршанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, ажыццяўляючы планавы рэйд-маршрут у лясным масіве блізу вёскі Петрашы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці, атрымалі звесткі пра факт браканьерства на тэрыторыі гэтага ўчастка. Правяраючы інфармацыю, адзін з супрацоўнікаў інспекцыі ў згаданым месцы ўбачыў чалавека са зброяй. Пры спробе наблізіцца да мужчыны для праверкі дакументаў апошні стрэліў у інспектара і ўцёк. Ад атрыманага ранення супрацоўнік памёр на месцы.

Напарнік загінулага паведаміў пра здарэнне ў праваахоўныя органы і апісаў прыкметы мужчыны, які страляў. Яго аператыўна затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Ім аказаўся 55-гадовы жыхар Талачына.

У дачыненні да затрыманага Следчым камітэтам распачатая справа на падставе п. 10 ч. 2 арт. 139 КК (забойства асобы ў сувязі з ажыццяўленнем ёй службовай дзейнасці).

Першапачатковыя следчыя дзеянні праводзіліся з прымяненнем магчымасцяў перасоўнай крыміналістычнай лабараторыі. На месцы здарэння працавалі следчыя цэнтральнага апарату Следчага камітэта, упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці, спецыялісты Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз. Падчас агляду прылеглай мясцовасці знойдзеная паляўнічая зброя, патроны да гладкаствольнай зброі і стрэляная гільза. Працу на месцы здарэння каардынаваў начальнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Уладзімір Шалухін.

Паводле рашэння кіраўніцтва Следчага камітэта для арганізацыі далейшага расследавання крымінальная справа перададзеная ў галоўнае следчае ўпраўленне.




На месцы забойства. © Фота - прэс-службы Следчага камітэта Беларусі

# Грамадзян, якія смецяць у лясах, вылічаць пры дапамозе фотапастак

**У Гродзенскім раёне з дапамогай фотапасткі ў лесе злавілі першага парушальніка.**

Камера сфатаграфавала, як ён выкідваў смецце. Асоба была аператыўна ўсталяваная. Парушальнік заплаціў штраф.

У Гродзенскай вобласці ў бягучым годзе закупілі амаль 35 фотапастак для размяшчэння іх на тэрыторыі лясгасаў. Гэта мабільныя сродкі фотафіксацыі, якія ўсталёўваюцца ў месцах, дзе могуць учыняцца парушэнні заканадаўства або патрабуецца ўлік жывёл, паведамілі БелТА ў Гродзенскім дзяржаўным вытворчым лесагаспадарчым аб'яднанні.

Фотапасткі ўсталяваныя ў месцах найбольш частых парушэнняў грамадзянамі прыродаахоўнага заканадаўства. Яны накіраваны на выяўленне незаконных высечак лесу, устанаўленне фактаў забруджвання лясной тэрыторыі. Зробленыя фотапасткай здымкі ляснічыя могуць убачыць са сваіх смартфонаў і аператыўна прыняць меры рэагавання.

*БелТА*



Фотапастка злавіла першага парушальніка.

